# Наша Свабода

№119(206) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

31 КАСТРЫЧНІКА 2001 года
СЕРАДА

Адрас:
220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail:
NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




## Шэсце ў Лошыцу

4 лістапада Кансерватыўна-хрысціянская партыя-БНФ правядзе санкцыянаванае мемарыяльнае мерапрыемства ў Лошыцкім Яры горада Мінска, прысвечанае Міжнароднаму дню памяці ахвяраў палітычных рэпрэсіяў і Дню памяці продкаў «Дзяды».

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе Кансерватыўна-хрысціянскай партыі-БНФ, акцыя распачнецца а 12-й гадзіне шэсцем ад Палаца культуры камвольнага камбіната (вуліца Маякоўскага). Удзельнікі акцыі пройдуць у Лошыцкі Яр, дзе над магіламі ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў установленыя памятныя крыжы. Там адбудзецца мемарыяльны мітынг.

**Марат ГАРАВЫ**

## Белорусский след в Ираке

*Нефтегазовая компания «Славнефть» и министерство нефти Ирака подписали контракт о проведении работ на месторождении Лухейс, расположенном на юге Ирака. Об этом сообщил департамент общественных связей,этой российско-белорусской компании.*

Согласно контракту, специалистам «Славнефти» предстоит пробурить 25 скважин, на глубину до 3 тысяч метров, нефть с которых будет экспортироваться через южноиракские порты. Ожидается, что контракт вступит в силу во второй половине 2002 года. Победа в тендере, можно считать, послужила определенной компенсацией за проигрыш другого тендера.

В прошлом году у Беларуси были неплохие шансы выиграть тендер на строительство теплоэлектростанции в Ираке. Контракт оценивался примерно в 740 миллионов долларов США. И фигурировали в нем белорусская структура ОАО «Белэнергострой» и некоторые коммерческие банки.

Белорусские энергетики уже строили объекты в Иране, Сирии, Йемене, Алжире и на ТЭС «Юсифия» в Ираке. По некоторым данным, 60 процентов стоимости контракта должно было перепасть российским подрядчикам из «Электромашэкспорта». Говорили, что в случае взятия контракта в конце прошлого года Багдад планировал посетить Лукашенко.

Не получилось. Победителем тендера оказались китайцы. По этому поводу официальный Минск предпочел хранить полное молчание. Зато после нынешнего прорыва «Славнефти», надо полагать, должно проявиться чувство глубокого удовлетворения. Достигнутый успех значим еще и потому, что президент «Славнефти» Михаил Гуцериев сумел обойти «равноудаленных» от Кремля российских олигархов, к которым сам еще не принадлежит. В том числе и своей близостью к Лукашенко.

Но не исключено, что доброму чувству, связанному с Ираком, может помешать и тревожное.

*Окончание на стр.3*

# Дзень памяці


Фота Ул. ШЛАПАКА

## «Бацька сказаў – замочыць»

*Беларускае тэлебачаньне паказала гомельскую заяву Аляксандра Лукашэнкі, зь якой можна зрабіць выснову пра ягоную датычнасьць да заказных забойстваў крымінальных аўтарытэтаў.*

Суботняя «Панарама» дала ў эфір частку прамовы Аляксандра Лукашэнкі ў Гомелі, дзе той паведаміў, што на другім годзе прэзыдэнцтва загадаў скласьці каталёгі крымінальных элемэнтаў у Менску ды абласьцях.



«Наши жулики без охраны ходят в Беларуси, не говоря уже о честных предпринимателях. Почему? А мы, говорит, спокойно ходим в подъезде, мы знаем, что в нас никто стрелять не будет. А почему? А потому, говорит, что президент расставил всех на место. Смотрите, мужики, не дай Бог... Всем будет. Да, я действительно, в Минске, в Гомеле поменьше, через определенных жуликов поставил в известность 5 лет назад: не дай Бог, только где-то вы создадите обстановку криминальную, я вам поотрываю всем головы. А ведь мы знаем, сколько их и кто они, этих ворюг в законе. Вся милиция знает. Вот сидит ваш милиционер, он работал в Минске. Что, мы не знаем их? Знаем.

Я вам даже больше скажу. Я, когда стал президентом, потребовал от министра внутренних дел на втором году, чтобы принес списки и положил на стол всех преступных и криминальных элементов в Минске. А потом пошли по Гомелю, по областям, ну, они и составили такой каталог. До сих пор в сейфе лежит.

*Заканчэнне на стар.3*

## Здзек над настаўнікамі

*2 лістапада ў канцэртнай зале «Мінск» і 3 лістапада ў Палацы Рэспублікі пройдзе другі з'езд настаўнікаў Беларусі. Нягледзячы на тое, што ў парадку дня значыцца мноства пытанняў – рэформа адукацыі, праект закона аб адукацыі і іншыя – самым актуальным для настаўніцтва застаецца праблема фізічнага выжывання.*

Другі з'езд настаўнікаў меркавалася правесці яшчэ ў чэрвені, але форум быў перанесены на больш позні тэрмін. Міністэрства адукацыі вытлумачыла гэта неабходнасцю прыняць новы закон аб адукацыі.

Аднак, на думку старшыні Мінскага гаркама прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Анатоля Паўлава, сапраўдная прычына палягае «ў палітычнай кан'юнктуры». Па ягоных словах, перад прэзідэнцкімі выбарамі ўладзе не было што казаць настаўнікам, якія складалі асноўную масу выбарчых камісіяў.

Рашэнні першага з'езда так і засталіся нявыкананымі: сярэдні заробак у сферы адукацыі так і не сягнуў узроўню сярэдняй зарплаты ў прамысловасці. Пасля выбараў, паводле А.Паўлава, «сацыяльна-эканамічны стан настаўнікаў ні на ёту не палепшыўся». Узровень заробкаў па Беларусі вагаецца ад 62% да 64% аплаты працы ў прамысловасці, сям-там гэты паказчык сягае 80%. Адразу пасля прэзідэнцкай кампаніі пайшлі нявыплаты настаўнікам: за верасень дзяржава завінавацілася 5 мільярдаў беларускіх рублёў, прычым у некаторых рэгіёнах настаўнікам не выдалі нават адпускныя.

Аднак найбольш уражвае сацыяльны стан тэхнічных работнікаў. Па звестках на 21 кастрычніка, якія даў А.Паўлаў, загадчык бібліятэкі з усімі надбаўкамі атрымлівае 64.796 рублёў, медсястра – 52.320 рублёў, намеснік выхавальніка, повар – 42.549 рублёў, а прыбіральшчыкі – 36.931 рубель. Як жыць на гэтыя капейкі – сказаць цяжка.

Мізэрныя заробкі з'яўляюцца асноўнай прычынай цякучасці кадраў.

*Заканчэнне на стар.3*

## Змаганне з Бангалор

31 кастрычніка суд Маскоўскага раёна Мінска паўторна разгледзіць скаргу сталічнай гарадской арганізацыі АГП на рашэнне Мінгарвыканкама. АГП спрабуе абскардзіць перанос месца правядзення акцыяў з цэнтра горада на плошчу Бангалор.

## Пагроза цукровасці цукру

У канцэрне «Белдзяржхарчпрам» затурбаваныя якасцю нарыхтовак цукровых буракоў, у прыватнасці, іхняй цукрыстасцю. Прычына – падгніванні і падмарожанасці клубняў.

## Фанатэка галасоў злачынцаў

Цяпер злачынцаў у Беларусі будуць ведаць па галасах. Савет міністраў зацвердзіў праграму сістэмы ўліку асобаў па фанаграмах іхняга маўлення. Яна ўводзіцца з прычыны росту колькасці злачынстваў, звязаных з вымагальніцтвамі, пагрозамі, ілжывымі паведамленнямі пра тэракты.У міністэрстве ўнутраных справаў будзе створанае адмысловае падраздзяленне.

## Немцам стане лягчэй гаварыць па-беларуску

Нямецкае выдавецтва *Reise know-how* выдала першы ў гісторыі Нямеччыны нямецка-беларускі размоўнік. Наклад – 3 тысячы асобнікаў. Укладнік размоўніка — 28-гадовы немец Гольфэр Кнаўф, студэнт універсітэта ў Белефельдзе.

## Самыя важныя прафесіі — рабочыя

Рабочыя прафесіі складаюць каля 90% ад усіх вакансіяў, што маюцца на біржах працы сталіцы. Сярод іх пераважаюць слесары, электраслесары, кіроўцы, манцёры, прадаўцы і будаўнікі. Амаль кожная пятая заяўка ад работадаўцаў паступае на некваліфікаваную рабочую сілу.

## Падсветлены Мінск

Дэкаратыўная падсвятленне маецца ў Мінску ўжо ў сарака будынкаў, і ў асноўным яны знаходзяцца на праспектах Скарыны і Машэрава. Бліжэйшым часам гэта будзе зроблена яшчэ для прыкладна такой самай колькасці сталічных спарудаў.

## Гарыць сена, гарыць салома

У недабудаваным будынку жывёлагадоўчай фермы «Выдрэя» Лёзненскага раёна, што размешчана ў вёсцы Новае Сяло, згарэла 11 тонаў сена і 10 тонаў саломы. Прычына пажару – дзіцячыя забаўкі з агнём.

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**1520**

# За памяць — расстрэльваць і вешаць!

*«Вас трэба, як тых падпольшчыкаў, расстрэльваць і вешаць на дрэвах па ўсім горадзе!» — з гэткім камэнтаром супрацоўнікі Маскоўскага РУУС Менску складалі пратаколы аб затрыманьні ўдзельнікаў акцыі ўшанаваньня памяці падпольшчыкаў, расстраляных у беларускай сталіцы 60 гадоў таму. У панядзелак над маладафронтаўцамі распачаліся суды. У гэты дзень прысуд вынесены тром удзельнікам акцыі, адзін чалавек апраўданы. Разгляды астатніх справаў адбудуцца ў чацьвер і пятніцу.*



Мінская турма (цяпер – СІЗО №1). Тут у гады акупацыі трымалі мінскіх падпольшчыкаў

Нагадаю: у пятніцу на вуліцы Валадарскага АМАПаўцы затрымалі 13 чалавек. Вінаватыя ўскладалі кветкі й запальвалі сьвечкі каля муроў турмы, адкуль 26 кастрычніка 1941 году вывелі ў апошні шлях менскіх падпольшчыкаў, закатаваных потым фашыстамі каля прахадной дражджавога заводу.

Маладыя людзі зьбіраліся прайсьці да месца катаваньня, каб і там пакласьці кветкі й запаліць сьвечкі. Але не пасьпелі яны адолець і некалькіх дзесяткаў мэтраў, як адбыўся хапун. Ад самага пачатку з затрыманымі абыходзіліся вельмі жорстка. Распавядае арганізатар акцыі Павал Севярынец.

— Ужо калі забіралі, ставілі на «расьцяжку», лаяліся расейскім матам, зьдзекаваліся, запіхвалі па некалькі чалавек у гэтыя міліцэйскія «козьлікі». Калі прывезьлі, — загрузілі ўсіх у «клясу». Шэраговыя міліцыянты «прыколваліся» як маглі, нягледзячы на тое, што ім адразу паведамілі: якая гэта жалобная нагода й што там рабілі маладафронтаўцы. Таму ў мяне засталося адчуваньне, што гэта была тыповая карная апэрацыя, вельмі-вельмі падобная да тых апэрацыяў, што ажыцьцяўляліся ў Менску 60 гадоў таму. Усё мала чым адрозьнівалася. Грубейшая сіла, хамства, цынізм — усё было навідавоку. 10 гадзінаў трымалі ў райаддзеле, а толькі потым адвезьлі на суткі.

Асаблівым цынізмам вызначаліся міліцыянты з Маскоўскага РУУС сталіцы, калі складалі пратаколы на затрыманых. Гаворыць адна з пацярпелых ад дзеяньняў ахоўнікаў правапарадку — Алена Валынец.

— Вельмі нэгатыўнае стаўленьне. І да гэтае даты яны ставіліся вельмі прыкра: высьмейвалі ўсё, казалі, што нас трэба расстрэльваць, як гэтых падпольшчыкаў, і вешаць на кожным слупе ў горадзе.

8 затрыманых пасьля складаньня пратаколаў і працяглага часу знаходжаньня ў будынку Маскоўскага РУУС этапавалі ў спэцпрыёмнік-разьмеркавальнік на Акрэсьціна, дзе яны перабылі крыху менш за трое сутак. А палове на адзінаццатую 29-га іх прывезьлі ў філію Маскоўскага суду на вуліцы Ясеніна, дзе судзьдзя Дзьмітры Антаневіч чыніў разгляд справаў.

Пераважная большасьць удзельнікаў акцыі заявілі хадайніцтвы аб удзеле ў працэсе адвакатаў, таму іхныя справы суд будзе разглядаць пазьней. Чатыры ж чалавекі мелі адваката, таму слуханьні адбыліся ўжо ў панядзелак. Нязважна на высновы адваката й прадстаўніка зьвінавачаных, што ў справе няма ні складу, ні падзеі праваparушэньня, намесьніку старшыні Маладога Фронту Аляксею Чарняеву й Алесю Панцялею прысудзілі па трое сутак адміністратыўнага арышту, якія яны — заўважма — ужо адбылі на Акрэсьціна. Памянёная Алена Валынец атрымала папярэджаньне. А Павал Яловік быў наагул апраўданы, бо, як высьветлілася, яго затрымалі зусім не за што.

— Не за што. За тое, што я проста так праходзіў. Яны, верагодна, падумалі, што я ўдзельнічаў у гэтай акцыі, — ну, і пратрымалі мяне 4 гадзіны.

Прадстаўнік зьвінавачаных — юрыст Уладзімер Лабковіч сказаў, што судзьдзя й ня мог вынесьці іншых прысудаў удзельнікам памінальнае акцыі.

— Лёгіка судзьдзі абсалютна зразумелая. Ён баіцца браць на сябе адказнасьць і апраўдваць. Няма ні складу злачынства, няма ніякіх дзеяньняў, якія б маглі падпадаць пад адказнасьць. Ён баіцца браць адказнасьць, бо людзі ўжо адседзелі трое сутак. Ён ведае: калі ён іх апраўдае, то ў гэтым выпадку гэтыя людзі маюць права зьвяртацца з зыскамі да супрацоўнікаў міліцыі за тое, што незаконна былі затрыманыя й знаходзіліся трое сутак у нечалавечых умовах у спэцпрыёмніку на вуліцы Акрэсьціна.

— Датычна тых людзей, што ідуць па другім разе й болей па адміністратыўных справах за год: якіх прысудаў можна чакаць ім у чацьвер і пятніцу?

— Я думаю, што ім будуць вынесеныя даволі лібэральныя прысуды, спакойныя, таму што судзьдзя разумее ўсю абсурднасьць гэтае справы. Я не чакаю вялікіх прысудаў, акрамя як Паўлу Севярынцу. Бо зразумела, што Павал Севярынец — асоба значная ў моладзевым руху Беларусі, і таму, безумоўна, на Паўла Севярынца можа паступіць «асабістая замова».

Сам Павал Севярынец чакае, што будзе менавіта гэтак, і таму маральна гатовы да чарговага асуджаньня да адсідкі на Акрэсьціна.

— Настрой нармалёвы, адразу пасьля выбараў я так і плянаваў: дзесьці адпачыць, усё абдумаць. Рэжым Лукашэнкі прадастаўляе гэткую магчымасьць. Але думаць я буду аб тым, як далей змагацца з гэтым рэжымам. А змагацца мы будзем усё мацней. Малады Фронт будзе аказваць такі супраціў, які неабходны, каб гэтага рэжыму ў Беларусі больш не было.

Разгляд справы Паўла Севярынца адбудзецца ў пятніцу а 14-й 30 па адрасе: вул. Ясеніна, 6, астатніх удзельнікаў акцыі — Аляксея Шэіна, Максіма Вянярскага, Алеся Нішчыка, Алега Лабатага — у чацьвер і ў пятніцу па той жа адрэсе. Справа ж Вольфа Рубінчыка, які запатрабаваў перакладаньня судовага паседжаньня на беларускую мову, мае разглядацца 2 лістапада.

**Генадзь КЕСЬНЕР**
**Радыё «Рацыя»**

# Здзек над настаўнікамі

***Больш за 300 тысячаў настаўнікаў сталіся закладнікамі сістэмы і ўласнай інтэлігенцкасці***

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Сёлета па Мінску сярэднія школы заявілі пра недахоп 1.175 выкладчыкаў. ВНУ накіравалі на працу ў школы 985 выпускнікоў, але да месца працы прыбылі толькі 584 чалавекі. Відавочна, што да з'езда настаўніцтва падышло ў жабрацкім стане.

«Я б сёння прапанаваў прыняць закон аб адукацыі ў новай рэдакцыі, прычым з захаваннем усіх асноўных сацыяльна-эканамічных пазіцыяў: каб 10% ад валавага ўнутранага прадукту ішло на адукацыю. Заробкі настаўнікаў мусяць дасягнуць узроўню сярэдняй зарплаты ў прамысловасці, а для выкладчыкаў ВНУ – на 0,5% вышэй за гэты паказчык», — заявіў Анатоль Паўлаў.

Анатоль Паўлаў «вельмі скептычна» ставіцца да абяцанняў уладаў давесці заробак настаўнікаў да 100 долараў да канца снежня. «Папершае, 100 долараў сёння нічога не вырашае, бо рост цэнаў з'ядае ўсё. Па-другое, мы бюджэтнікі і залежым ад эканомікі. Па выніках сацыяльна-эканамічнага развіцця Мінска за першае паўгоддзе 2001 года, рэшткі гатовай прадукцыі на складах узраслі ў 1,4 раза і склалі на 1 ліпеня 95% ад сярэднемесячнага аб'ёму вытворчасці. Гэта значыць, што цягам месяца прамысловасць Мінска магла не працаваць, а рэалізоўваць накопленую на складах. Амаль трэць выручкі ад рэалізацыі прадукцыі складае бартэр. Адкуль жа гораду ўзяць грошы на выплату заробкаў настаўнікам?» — пытаецца Анатоль Паўлаў.

Варта нагадаць, што А.Паўлаў з'яўляецца ініцыятарам кампаніі па зборы подпісаў пад патрабаваннем давесці сярэдні заробак у адукацыі да сярэдняга паказчыка ў прамысловасці. Мінулай восенню было сабрана звыш 180 тысячаў подпісаў настаўнікаў, і 6 снежня зварот быў перададзены тагачаснаму прэм'еру Уладзіміру Ярмошыну.

Аднак, прайшоўшы ўсе інстанцыі – ад міністэрства адукацыі да Канстытуцыйнага суда – прафсаюз адукацыі і навукі так і не здолеў знайсці бок, які мог бы выступіць адказчыкам у калектыўнай працоўнай спрэчцы. Такім чынам гэтая ініцыятыва заглухла.

«Калі ўладзе напляваць на крык душы больш за 180 тысячаў настаўнікаў адной з вядучых сфераў жыцця, то я такой улады проста не разумею», — рэзюміраваў Анатоль Паўлаў. Пры гэтым старшыня Мінскага гаркама прафсаюза падкрэсліў, што «што настаўнікі зараз не гатовыя ўголас выказваць свой пратэст, скажам, праз страйк».

**Рыгор БУЯН**

# Белорусский след в Ираке

*Окончание, начало на стр.1*

Несмотря на официальные опровержения явно не вовремя появившейся информации о так называемых «иракских курсантах» в Беларуси, тема отношений Минска с одиозными режимами продолжает циркулировать в различных кругах.

Кстати, об этих опровержениях. Как считают многие наблюдатели, не совсем убедительным выглядит утверждение, что Беларусь не может продавать оружие, так как не является его производителем. Может быть.

Однако, будучи не производителем, вполне можно заниматься реэкспортом. До сих пор так никто и не опроверг, к примеру, информацию ряда СМИ о том, что новейшие образцы российского оружия, поставленного белорусскому союзнику, посредством реэкспорта в Ливию оказалось затем у чеченских сепаратистов. По неофициальной информации, тогда между союзниками произошел с трудом скрытый скандал, о котором должен помнить экс-министр обороны генерал-полковник Александр Чумаков. Говорят, в отличие от своего российского коллеги маршала Игоря Сергеева, он так до сих пор и не пристроен. А что касается «иракских курсантов», наличие которых МИД и другие также, как и продажу оружия, отрицают, то ведь обучаться или «содействовать в их обучении» можно не только в Военной академии.

Успеху славянских нефтяников может придать горький привкус белорусский след, о котором уже стали говорить на международном уровне. По информации некоторых московских источников, в Совете Безопасности ООН появился некий документ, в котором излагаются якобы факты причастности руководства Беларуси к сомнительным связям с режимами и организациями, которые называют террористическими. Как известно, к таковым причисляют и багдадский режим, находящийся уже десять лет под экономическими санкциями ООН.

Те же источники утверждают, что появление такого документа с изложенной в нем фактурой, стало неприятной неожиданностью для Кремля. Если это так, то тогда представляются вероятными причины охлаждения двусторонних отношений и неоднократные переносы встречи Лукашенко с Путиным. Правда, не исключается и такая версия, что появления «компромата» могло быть связано с происками конкурентов на том самом тендере, который выиграла российско-белорусская компания «Славнефть». Ведь контракт связан с послаблением или снятием санкций ООН. Но вот что обращает на себя внимание в связи с возникшей ситуацией вокруг этого секретного «компромата».

На днях Тарик Азиз, которого называют правой рукой Саддама Хусейна, неожиданно заявил, что Ираку грозят войной США и Великобритания и Багдад готов к ней. Буквально на следующий день из Вашингтона и Лондона последовали опровержения. Что касается белорусского следа в якобы причастности к терроризму, то из недр ООН пока никаких опровержений на «компромат» не поступало.

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

# «Бацька сказаў – замочыць»

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Мы знаем всех. И они знают, что мы их знаем. И не дай Бог, он шевельнется..., а он не дурак. Если власть проворовалась, если власть криминальная, как он, ничем его не удержишь, так же? А если ты честно проводишь политику, если ты сам не ворюга, они этого жутко боятся: «Да ну, хлопцы, батька сказал, замочит». Был случай, когда они неправильно себя повели. Помните вы этих Щавликов и прочих. Где они сейчас? Поэтому в стране порядок, и все довольны, и докладывают в Службу безопасности: «Три тыщи голов за Вас проголосовало». Да, да, звонили и докладывали — «голов». Так ведь было?»

Аляксандар Лукашэнка фактычна прызнаў, што кантралюе крымінальны сьвет, а крымінальнікі за яго галасуюць на выбарах. Аднак галоўная сэнсацыя ў тым, што Лукашэнка намякае: «Бацька замачыў Шчаўліка». Гэта мянушка менскага злодзея ў законе, які зьнік бязь вестак ды якога, паводле першых электронных лістоў былых сьледчых Случака й Петрушкевіча, забіў «эскадрон сьмерці».

Сьледчыя яшчэ ў чэрвені сьцьвярджалі, што гэты эскадрон спачатку трэніраваўся на крымінальніках Шчаўліку й Маманцёнку, а потым перайшоў да палітычных забойстваў Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара й Анатоля Красоўскага.

Я патэлефанаваў Мікалаю Барысевічу, прэсаваму сакратару Аляксандра Лукашэнкі, які разам зь ім быў на мінулым тыдні ў Гомелі, ды задаў пытаньне - ці можна разумець Лукашэнкаву заяву наступным чынам:

– Ці Лукашэнка мае дачыненьне да заказных забойстваў? Проста хацелася б камэнтар узяць...

– Кажу, што ніякага дачыненьня ня меў і ня мае.

Я нагадаў спадару Барысевічу цытату: *«Помните вы этих Щавликов и прочих. Где они сейчас?»*

– Ну і дзе яны зараз?

– «Батька сказал – замочит».

– «Юры, ня трэба перадзёргваць тут сэнс. Сэнс быў у тым, што так, на першым часе былі спробы, дапусьцім, як і паўсюль на постсавецкай прасторы, спробы з боку крымінальнае эканомікі й гэтак далей, крыміналу свае правілы ўсталяваць. Гэтага не атрымалася, так, і таму гаворыцца: «А дзе зараз?» Маецца на ўвазе «зараз» – тое, што чалавек... Уплыву крымінал не аказвае аніякага. Вось гэта й мелася на ўвазе – дзе ён зараз. Маецца на ўвазе, што сама сфэра ўплыву такога, як у іншых, дапусьцім, яна не аказвала й не аказвае. Вось гэта маецца на ўвазе».

– Ну, у кантэксьце «бацька сказаў – замочыць» і гэтых лістоў Случака й Петрушкевіча, дзе сказана, што першым зьнік Шчаўлік...

– Ні Петрушкевіча там, нічога не было. Гаварылася ў тым кантэксьце – яшчэ раз паўтараю, – гаварылася штo да крымінальных элемэнтаў. Ні Шчаўлікаў там, ні канкрэтна пра нейкія асобы размовы ніякай не ішло. Я гэта яшчэ раз падкрэсьліваю і паўтараю – што размовы канкрэтна пра нейкія асобы не ішло», – сказаў Мікалай Барысевіч, прэсавы сакратар Аляксандра Лукашэнкі.

Паводле юрыста Гары Паганяйлы зь Беларускага Гельсынскага камітэту, на крымінальнікаў сапраўды вядзецца «апэратыўны ўлік», і летась толькі ў Менску на гэтым уліку было каля 200 асобаў, якіх адносяць да крыміналітэту.

– А што-небудзь пра Шчаўліка і Маманцёнка вы ведалі раней?

– Так, я ведаў. Сапраўды, пасьля таго, як Шчаўлік шырока, адкрыта адсьвяткаваў сваё вясельле ці дзень нараджэньня (я зараз дакладна не памятаю, гэта быў, па-мойму, 1996-ы год), там быў Шуфуцінскі, іншыя эстрадныя зоркі, і гэта, дарэчы, трапіла ў наш друк – пра тое, наколькі шырока прагрымела гэтае вясельле ці дзень нараджэньня, што ён там сьвяткаваў, – прэзыдэнт сапраўды выклікаў міністра ўнутраных справаў і ўказаў на тое, што з гэтымі людзьмі ў Беларусі пара канчаць».

Гары Паганяйла дадаў, што Шчаўліка, сапраўднае імя якога Уладзімер і які быў «злодзеем у законе», раней асудзіў Савецкі раённы суд Менску да ўсяго 6 месяцаў пазбаўленьня волі.

– Не даказалі больш цяжкіх злачынстваў – ён пасьпяхова выйшаў зь СІЗА, але потым, сапраўды, зьнік.

– Ён менавіта зьнік? Пасьля таго, як Лукашэнка выклікаў да сябе міністра, ён зьнік?

– Ён зьнік, так. І сапраўды, у злодзейскім, што называецца, сьвеце, падазраюць, што ліквідацыя некаторых злачынных аўтарытэтаў была ажыцьцёўленая менавіта спэцслужбамі, прычым менавіта фізычная ліквідацыя.

Паводле спадара Паганяйлы, зьнікненьне Шчаўліка ў справе пра зьнікненьне Зьмітра Завадзкага не фігуруе, і групе Ігнатовіча такое абвінавачаньне не выстаўлялі.

Гары Паганяйла заявіў, што нічога новага Аляксандар Лукашэнка не раскрыў, а гомельскую заяву спадара Лукашэнкі ён пракамэнтаваў так: «У сваіх службовых – і неслужбовых часам – справах і выказваньнях ён паводзіць сябе сапраўды як пахан, то бок арганізатар злачыннае групоўкі».

**Юры СЬВІРКО**

# Лёс крымінальнай справы

Застаецца невядомым лёс крымінальнай справы ў дачыненні да жыхаркі Рэчыцы Наталлі Брэль, якая абвінавачваецца ў паклёпе і знявазе прэзідэнта Беларусі.

Нагадаем, што ў дзень нараджэння А.Лукашэнкі Н.Брэль перадала яму праз мясцовую выбарчую камісію адмысловы падарунак – вераўчаную пятлю, кавалак мыла і яшчэ некаторыя рэчы. Гэты ўчынак рэчыцкая пракуратура расцаніла спачатку як паклёп, а потым — і як знявагу прэзідэнта. Была ўзбуджаная крымінальная справа.

29 кастрычніка завяршыўся ўстаноўлены законам тэрмін папярэдняга следства, якое вядзе Рэчыцкая міжраённая пракуратура. Пракурор Віктар Будкоў адмаўляе, што гэтая крымінальная справа можа быць закрытая.

**Ірына ШАНЦАВА**

# Вашингтон напрягся в ожидании терактов

*Руководство США официально предупредило население о том, что в течение недели в стране могут произойти новые теракты. Американские правоохранительные органы уже перешли в состояние повышенной готовности, а среди рядовых американцев усилилась паника.*

С предупреждением к нации обратились в понедельник министр юстиции США Джон Эшкрофт и директор ФБР Роберт Мюллер. Оба выступили на пресс-конференции, которая транслировалась телеканалом *CNN*.

Эшкрофт сообщил со ссылкой на достоверные источники, что угроза террористического нападения на страну усилилась. Теракты, по его словам, могут произойти еще до конца этой недели.

Мюллер, со своей стороны, напомнил, что правительство выступает уже со вторым подобным предупреждением. Первое прозвучало 11 октября. По словам Мюллера, оно помогло предотвратить повторение терактов 11 сентября.

Ни один из высокопоставленных чиновников не раскрыл источника информации о террористических угрозах. Источники *Washington Post* в правительстве США сообщили газете, что, вероятнее всего, предупреждения связаны с деятельностью организации бин Ладена «Аль-Каида». Официально, впрочем, об этом сказано не было. Эшкрофт лишь сообщил, что правительственное предупреждение основано на заслуживающих доверия сообщениях, которые при этом не носят конкретного характера. Иными словами, о готовящихся терактах известно, но о том, как и где они будут осуществлены, нет. В ходе пресс-конференции министр юстиции предписал 18 тыс. сотрудникам правоохранительных структур перейти на усиленный режим работы, а рядовых американцев призвал не паниковать и сообщать обо всем необычном.

Удержать Америку от паники оказалось не так-то просто. Уже через несколько часов после завершения пресс-конференции в Вашингтоне в небе США произошел очередной инцидент.

Лайнер компании *American Airlines*, совершавший рейс из Нью-Йорка в Даллас (штат Техас), был вынужден изменить курс и сесть на вашингтонском аэродроме.

Сразу после посадки пассажиры и экипаж были эвакуированы, и на борт поднялись представители ФБР. О причинах нештатной ситуации не сообщается. Однако *Washington Post* пишет, что *Boeing* изменил курс из-за угрозы, природа которой не разглашается официальными лицами.

Одновременно с опасениями новых захватов самолетов среди американцев усилились и страхи в связи с атаками биотеррористов. Оптимизма американцам, в частности, не прибавили сообщения о том, что медэксперты обнаружили споры сибирской язвы уже почти в 20 зданиях федеральных учреждений и почтовых объектов американской столицы.

В начале этой недели представители администрации США сообщили, что смертельно опасные бациллы проникли в четыре офисных здания сената, палаты представителей Конгресса США, здание Верховного суда, госдепартамента и отдел сортировки почты в комплексе ЦРУ.

Споры сибирской язвы были также обнаружены в отделах сортировки писем пяти американских ведомственных объектов – Капитолия, Белого дома, минюста, госдепа и Верховного суда.

А американские СМИ сообщили о восьмом случае заболевания легочной формой сибирской язвы. Новой жертвой биотеррористов стала почтальон из штата Нью-Джерси.



Обеспокоенные усилением почтового биотеррора, американские почтальоны потребовали кардинальных мер. Сотрудники почтовых служб Нью-Йорка подали иск о закрытии центрального почтового отделения, того самого, через которое зараженные письма пришли в *NBC News*, *ABC News* и *New York Post*. Ранее аналогичный иск был подан профсоюзом почтовиков в Майами. В ближайшее время судебные власти должны официально ответить на требования почтовых служащих.

Президент США Буш уже пообещал нации, что усилит контроль за приезжающими в страну туристами и так называемыми легальными иммигрантами. «Мы будем более бдительны в вопросе выдачи виз, а также проверять, чем занимаются приезжающие в США лица. Если, например, студент приезжает учиться, то мы захотим убедиться, что он действительно учится», – заявил Буш. Говоря о возможности новых терактов, президент в очередной раз посоветовал американцам не бояться террористов и «не менять из-за них стиль своей жизни».

**Gazeta.ru**

## На «Курске» виден след столкновения с подводным объектом

На корпусе «Курска» есть пробоина, появившаяся при столкновении АПЛ с неким подводным объектом. К такому заключению пришли эксперты, обследовавшие «Курск» в доке Росляково, сообщает «Российская газета».

Основная часть этой пробоины приходится на первый отсек, оставшийся на дне Баренцева моря. Однако о том, что столкновение произошло, и именно с подводным объектом, можно судить по следу в районе начала второго отсека.

Этот след – длинная, глубокая, но узкая борозда – находится по правому борту лодки, ниже ватерлинии. После того, как его осмотрели эксперты, след разрешили снимать журналистам. Эксперты подтвердили им, что такой след не мог оставить киль надводного корабля – иначе след располагался бы в верхней части корпуса.

Таким образом, по мнению «Российской газеты», подтвердилась версия капитана 1-го ранга Михаила Волженского о том, что некая иностранная подлодка задела «Курск» кормовым стабилизатором. Оставшийся на «Курске» след выглядит прочерченным довольно узким предметом, каким и является стабилизатор.

В этом случае, по мнению журналистов, объясняется, почему вторая подлодка удалялась медленно (ведь у нее должны были быть повреждены винты и рули), но все же не погибла. Напомним, что противолодочные самолеты североморской авиации зафиксировали некую подлодку, удалявшуюся с места гибели «Курска» со скоростью не более пяти узлов.

По словам журналистов, в рамках версии о столкновении с подлодкой находит свое объяснение и 135-секундная пауза, которая разделяет два взрыва, прогремевших на «Курске». Первый взрыв мог быть взрывом в торпедном аппарате торпеды, деформированной при столкновении. Пламя от этого взрыва ударило в стеллажные торпеды и, спустя примерно две минуты, от сильного разогрева взорвался и весь находившийся поблизости боезапас.

Напомним, 29 октября вице-премьер Илья Клебанов заявил в интервью телекомпании НТВ, что пробоина в борту «Курска» могла появиться в результате столкновения. Клебанов сказал, что происхождение пробоины пока невозможно определить, но это, видимо, будет сделано в ближайшее время.

## Бородина будут судить по законам гор

*Вместе с ним в швейцарском суде могут оказаться Борис Ельцин и Виктор Черномырдин. Как сообщил в пятницу прокурор Женевы Бернар Бертосса, следствие по делу госсекретаря союза Беларуси и России, продолжавшееся около двух лет, завершено. Бертосса уже ознакомился с многотомными материалами дела, представленными следователем Дево, и рекомендовал передать их в суд.*

Напомним, что бывший управляющий делами президента Павел Бородин обвиняется в отмывании 30 миллионов долларов. По версии следствия, эти деньги он получил от двух строительных фирм «Мабетекс» и «Мерката Трейдинг» взамен на предоставление крупных строительных подрядов на восстановление Кремля. В январе этого года Бородин был арестован в США, а в апреле экстрадирован в Швейцарию. Швейцарское правосудие выпустило его под залог в 3,5 миллиона долларов, выплаченный из бюджета т.н. Союзного государства Беларуси и России.

С апреля по октябрь Бородин выезжал в Женеву к следователю Даниэлю Дево шесть раз. На допросах он точно следовал рекомендации адвокатов – хранил молчание. 22 октября должен был состояться очередной допрос. Однако Бородин в Женеву не поехал, отправив следователю по факсу справку о временной нетрудоспособности. В этот день чиновник проходил медицинское обследование в связи с плохим самочувствием. Недавно Павлу Бородину исполнилось 55 лет. Однако юбилей оказался омрачен. Бородину предстоит судебное разбирательство, которое может растянуться на многие месяцы.

В число свидетелей, которые могли дать показания в пользу Бородина, могут войти весьма высокопоставленные чиновники конца 90-х годов. По данным агентства *Reuters*, в этот список адвокатами Бородина были включены бывший президент России Борис Ельцин и экс-премьер Виктор Черномырдин.

В своем выступлении Бертосса отказался назвать хотя бы примерные сроки начала судебного процесса. Такая неопределенность не случайна. По словам адвоката Элеоноры Сергеевой, дело ее подзащитного из прокуратуры не может быть сразу передано в суд. После принятия решения Бернаром Бертоссой о направлении дела в суд, дело должно пройти еще одну инстанцию – Обвинительную палату кантона Женева. Также Обвинительная палата должна рассмотреть несколько ходатайств, которые не были удовлетворены следственным судьей Даниэлем Дево, и жалобы на нарушения, которые были допущены в ходе расследования. В частности, Дево так и не допросил дополнительных свидетелей, на вызове которых настаивала защита. Круг допрошенных свидетелей ограничился несколькими лицами, которые ничего существенного не сказали.



«Решение по ходатайствам и жалобам защиты ожидается в начале ноября, – рассказала Сергеева «Газете.ru». – Не исключено, что ходатайства и жалобы защиты и решение о передаче дела в суд будут рассматриваться одновременно. В случае если жалобы адвокатов будут удовлетворены, расследование дела продолжится».

В противном случае уголовное дело будет передано в суд, и адвокатам придется уже там добиваться оправдательного приговора для Бородина.

**Светлана НЕСТЕРОВА**

# Москва зарабатывает на войне

*27 октября представители минобороны России признали, что стоимость новой партии военной техники и вооружений, передаваемой Северному альянсу, составляет около 45 млн. долларов. По сведениям «Газеты.ru», военную помощь Москва оказывает отнюдь не безвозмездно – за технику платит правительство Великобритании.*

По информации *CNN*, Россия начала переброску в Афганистан новой большой партии оружия – 40 танков Т-55 и примерно 100 единиц другой бронетехники. По другим данным, полученным *Washington Times* от источников в американской разведке, танков альянсу передается действительно 40, а вот бронемашин не 100, а 80. В основном это БМП-1 и БМП-2 (гусеничный ход), а также несколько БТР-60 (на колесах).

Вопреки обыкновению, в минобороны России необычно быстро отреагировали на сообщения американских СМИ. Там подтвердили то, что «Россия поставляет военную технику Северному альянсу в Афганистане в рамках зарубежного военно-технического сотрудничества». При этом собеседник агентства РИА «Новости» отказался уточнить объемы и номенклатуру направляемой техники, но изящно намекнул, что и в деталях *CNN* и *Washington Times* можно верить. «Выступая на заседании Совета федерации 10 октября, Иванов подчеркнул, что афганцам нужна простая, очень надежная и испытанная техника, в том числе танки Т-55», – заявил представитель минобороны.

Действительно, еще 24 сентября министр обороны России Сергей Иванов прямым текстом признал поставки танков и прочего оружия моджахедам Северного альянса. «Ни для кого не секрет, что Россия уже давно оказывает эту помощь», – огорошил журналистов министр. Однако до сих пор остается открытым вопрос, кто именно платит за оказание военно-технической помощи Северному альянсу и кто воюет на этой технике на стороне альянса. Военный эксперт Павел Фельгенгауэр уверен, что машинами управляют российские экипажи. Иначе и быть не может, полагает Фельгенгауэр, ведь нельзя для такого количества танков найти достаточно афганских танкистов, нельзя быстро выучить танкистскому делу крестьян, и вообще русские танки быстро достаются более опытным талибам. Поэтому в Афганистан якобы вместе с бронетехникой вошли военнослужащие 201-й дивизии, переодетые в афганцев.

Между тем Сергей Иванов еще в конце сентября категорически заявил, что ни один российский военнослужащий не будет служить в Афганистане инструктором и тем более воевать.

По мнению эксперта Пухова, в Афганистане нет российских военных ни по линии минобороны, ни наемников. «В Эфиопии действительно на истребителях летают не негры, а военные летчики из России и других республик бывшего СССР, но в Афганистане в них просто нет необходимости», – объяснил он корреспонденту «Газеты.ru». Хотя в афганском эфире действительно звучит русская речь. «Военный язык у бойцов Северного альянса до сих пор русский: «стой», «стреляй» и так далее. Представьте себе, чтобы летчикам команды отдавали на пушту...»

Насчет того, откуда берутся танки и бронетранспортеры для антиталибских моджахедов, у эксперта Пухова есть два предположения. Почти все Т-55 сейчас сняты с вооружения и законсервированы на складах. Расконсервация требует времени. Кроме того, машины нужно доукомплектовать и хотя бы раз прогнать по полигону.

«Возможно, что-то взяли из 201-й дивизии, где бронетехника уже в рабочем состоянии, хотя такая же старая. А в Афганистане сейчас и не нужна новая. В ней нет необходимости. В Югославии пять лет назад вообще на Т-34 воевали. Если бы у талибов были вертолеты «Апач», то Т-55 были бы все равно что картонные коробки. Но у талибов нет вертолетов «Апач».

Что же касается финансирования поставок оружия афганцам, то Россия, судя по всему, не только избавляется от старой техники, занимающей место на складах, но и неплохо на этой помощи альянсу зарабатывает. 27 октября представители минобороны признали, что стоимость последней партии военной техники, передаваемой северянам, составляет «около 45 млн. долларов». «Я не исключаю, – заявил Руслан Пухов, – что полностью или частично эти поставки оплачивают либо США, либо Великобритания».

По сведениям, полученным «Газетой.ru» от еще одного военного эксперта, который просил не называть его имени, за 40 танков и 80 единиц другой бронетехники действительно заплатило правительство Великобритании. Этот вопрос был решен на закрытой встрече главы Рособоронэкспорта Андрея Бельянинова и Джеффа Хуна, которая прошла в Москве в начале октября.

**Артем ВЕРНИДУБ**






# Асцярожна – праца!

*Прыкладна чвэрці працоўнай часткі беларускага насельніцтва даводзіцца выконваць свае працоўныя абавязкі ў пагражаючых здароўю ўмовах. Такая сітуацыя на пачатак 2001 года была выяўленая адмысловымі праверкамі на 15% прадпрыемстваў Беларусі. А паколькі кожнаму з нас большую частку свайго жыцця даводзіцца праводзіць на працы, то з цягам часу ўсё гэта адбіваецца на нашым здароўі прафесійнымі захворваннямі.*



Аднак, што цікава, Беларусь па гэтым паказальніку нашмат саступае ўсім развітым еўрапейскім краінам. Калі ў цывілізаванай Швецыі штогод хворых на прафесійнае захворванне становіцца болей прыкладна на 4.000 чалавек, то ў Беларусі ў 2000 годзе ў гэтую групу хворых дадалося толькі 262 новыя чалавекі (што на 25 чалавек меней, чым было ў 1999 годзе). Агульная колькасць хворых дасягае 10 тысячаў.

Натуральна, што нашыя ўмовы працы не могуць быць лепшымі за тыя, што рабочыя маюць у Швецыі, таму справа тут у іншым. Працэдура выяўлення сувязі хваробы з умовамі працы па прафзахворваннях была настолькі складаная, што не ў кожнага работніка былі магчымасці прайсці гэты шлях да канца. Раней дыягназ па хранічным прафесійным захворванні мог паставіць толькі Рэспубліканскі цэнтр прафпаталогіі, таму ўсім працоўным з рэгіёнаў даводзілася з'язджацца ў Мінск. Не для кожнага гэта было зручна, таму некаторыя проста махалі на гэта рукой. Таму, па ацэнках замежных спецыялістаў, большасць з тых людзей, якіх у нас звычайна выяўлялі як хворых, ужо быў самы час па стане здароўя вызначаць наогул як прафесійна непрыдатных.

Сёлета з траўня гэты працэс крыху спрацсіўся: такі дыягназ ужо могуць ставіць урачэбна-кансультатыўныя камісіі пры раённых паліклініках і абласныя цэнтры прафпаталогіі. Чакаецца, што гэта неяк дапаможа наблізіць колькасць выяўленых хворых да іх рэальнай колькасці, у якой прыкладна можна арыентавацца на еўрапейскія краіны.

Большую частку пакутуючых на прафхваробы дае галіна машынабудавання. У 2000 годзе там быў выяўлены 161 хворы чалавек. Далей ідуць лёгкая прамысловасць (24 выпадкі захворвання), энергетыка (11 выпадкаў) і чорная металургія (5). Пераважная большасць гэтых выпадкаў па геаграфічным раскладзе сканцэнтраваная ў Мінску. Найбольш небяспечна працаваць на Мінскім трактарным заводзе (асабліва ў ліцейным цэху) і Мінскім аўтамабільным заводзе: амаль палова ўсіх хворых на прафзахворванні выйшла з гэтых гігантаў айчыннай прамысловасці. Сярод іншых небяспечных месцаў працы статыстыка паказвае на Бабруйскі машынабудаўнічы завод, АТ «Сілікат», ААТ «Брэсцкі панчошны камбінат», ААТ «Дываны Брэста», ПА «Беларуськалій», ПА «БеЛАЗ» і шмат іншых. Усё гэта буйныя, а таму немабільныя прадпрыемствы з састарэлымі тэхналогіямі. Тэхналагічнае абсталяванне тут не мянялася з савецкіх часоў, а таму яно зношанае ўжо на 80-90%. А без рэканструкцыі цэхаў і ўчасткаў умовы працы на іх палепшыць ужо немагчыма.

У сельскай гаспадарцы амаль палова працоўных месцаў не адпавядае нормам па шуме, траціна – па мікраклімаце. Лідзіруюць тут Магілёўская і Брэсцкая вобласці. Рабочым большасці рамонтна-механічных майстэрняў у гаспадарках узімку даводзіцца працаваць пры мінусавай тэмпературы, бо памяшканні зусім не ацяпляюцца. Калі зробіць хто-небудзь самаробную печку – і тое ўжо добра.

Працуючых у шкодных і небяспечных умовах наймальнік абавязаны забяспечыць неабходнымі сродкамі індывідуальнай абароны, а таксама арганізаваць іх мыццё, рамонт, дэзінфекцыю і абясшкоджванне. На практыцы ўсё, натуральна, зусім інакш. На прадпрыемствах сельскай гаспадаркі ў той жа Магілёўскай вобласці неабходным спецадзеннем і сродкамі індывідуальнай абароны забяспечаныя толькі 70-85% механізатараў, а іх мыццё і хімічная апрацоўка праводзяцца ў адзінкавых выпадках.

Занятым на шкодных і небяспечных работах працоўнае заканадаўства гарантуе заробак у падвышаных памерах, скарочаны працоўны дзень і дадатковы адпачынак. Разам з тым, яны могуць разлічваць на малако і лячэбна-прафілактычнае харчаванне. Аднак ніякае малако ўжо не дапаможа здароўю, калі са шкоднымі рэчывамі на працы сутыкацца штодзень на працягу дзесяцігоддзяў. Так і атрымліваецца, што траціна з выяўленых хворых – людзі са стажам працы больш за 25 гадоў.

Большыню людзей «косіць» шум: ад яго ўздзеяння пакутуюць больш за 40% захварэлых, для якіх прафесійным захворваннем становіцца неўрыт – хвароба перыферычных нерваў, калі чалавек можа страціць адчувальнасць альбо атрымаць параліч.

Вібрацыйная хвароба – гэта прафесійная хвароба, у прыватнасці тых, хто працуе з электрамалаткамі ці ўшчыльняе асфальтавае пакрыццё. Ад такой працы чалавек атрымлівае боль і слабасць у нагах і руках, сутаргі і зніжэнне адчувальнасці. Дарэчы, па вібрацыі санітарным нормам не адпавядаюць 13% прадпрыемстваў.

Залішняя запыленасць памяшкання (што назіраецца на 23% прадпрыемстваў) выклікае пылавы бранхіт і пнеўмаканіёзы. Гэта хваробы збольшага машынабудаўнікоў і шахцёраў. Больш распаўсюджаны бранхіт – запаляльнае захворванне бронхаў, калі чалавеку даводзіцца пакутваць ад кашлю (бывае, што з гнойнай макротай) месяцамі, а то і гадамі. Пнеўмаканіёзы спачатку таксама пачынаюцца з кашлю, а потым можа дадацца і сардэчная недастатковасць, парушэнне функцыяў страўніка і абмена рэчываў.

Праца, звязаная з харчовымі прадуктамі ці з хімічнымі рэчывамі, вядзе да таксікадэрміі – высыпаннях на скуры, а работнікі лазняў ці кандытарскіх вытворчасцяў больш за іншых рызыкуюць падхапіць кандыдамікоз – захворванне скуры і слізістых абалонак, калі паміж пальцаў ці ў скуравых складках з'яўляюцца чырвоныя плямы, у вугалках рота – трэшчыны, а ў ротавай поласці – белы налёт.

Для любога віду дзейнасці існуюць нейкія пэўныя хваробы, і займець мы іх можам, працуючы не толькі на заводзе, але і ў бальніцы, офісе, перад кампутарам ці на сцэне. Натуральна, што праца ў шкодных і небяспечных умовах больш спрыяльная для развіцця якой-небудзь жудаснай хваробы. Каб не давесці свайго работніка да прафесійнай непрыдатнасці, наймальнік павінен арганізоўваць рэгулярныя медагляды. Як толькі заўважаецца нейкае пагаршэнне здароўя работніка, яго неабходна перавесці на іншую працу, якая адпавядае ягонай кваліфікацыі і падрыхтоўцы (а такая праца можа быць, на жаль, незаўсёды). Сам ён можа ад гэтага адмовіцца, але тады рызыкуе ўвогуле застацца без працы, атрымліваючы ад наймальніка грашовыя выплаты за зніжэнне працаздольнасці. Прычым, як можна здагадацца, не самыя вялікія. А калі такая перспектыва вісіць над галавою, як дамоклаў меч, не кожны захоча мець дыягназ аб прафесійным захворванні.

Так што невядома — колькі іх, набыўшых і набываючых сабе разнастайныя болькі ў варунках сацыялізму і цяперашняга рынкавага сацыялізму. Жыць жа трэба: хварэй, а жыта сей.

**Алена ЛАБАНАВА**

# «Сур'ёзны пакет дакументаў»

Урад Беларусі падрыхтаваў «сур'ёзны пакет дакументаў» па лібералізацыі эканомікі. Пра гэта паведаміў прэм'ер-міністр Беларусі Генадзь Навіцкі, адказваючы 26 кастрычніка на пытанні парламентарыяў у Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу.

У прыватнасці, паводле яго словаў, Савет міністраў мае намер кардынальна скараціць колькасць відаў дзейнасці, якія падлягаюць дзяржаўнаму ліцэнзаванню; дазволіць дзяржаўную рэгістрацыю прыватных унітарных прадпрыемстваў па месцы жыхарства фізічнай асобы; адмяніць працэдуру перарэгістрацыі суб'ектаў гаспадарання; дазволіць дзяржаўную рэгістрацыю суб'ектаў гаспадарання Брэсцкаму, Віцебскаму, Гомельскаму, Гродзенскаму, Магілёўскаму гарвыканкамам з мэтай спрашчэння гэтай працэдуры.

Да 1 лістапада, паведаміў Навіцкі, Савет міністраў унясе прэзідэнту прапановы аб спрашчэнні працэдуры рэгістрацыі і ліквідацыі суб'ектаў гаспадарання з адначасовым павышэннем іх адказнасці за выкананне закона.

Прэм'ер таксама нагадаў, што ў мэтах далейшай лібералізацыі эканамічных адносінаў урад у рамках сваёй кампетэнцыі ўжо адмяніў дэклараванне крыніцаў інвестыцыяў да 10.000 доляраў ЗША ў грашовай форме. Цяпер, паводле словаў Навіцкага, «атрыманая падтрымка прэзідэнта далейшай лібералізацыі гэтага працэсу». Адпаведныя прапановы паступілі ўжо ў Палату прадстаўнікоў для ўключэння ў законапраект аб дэклараванні даходаў і маёмасці.

**Юрый ПАЦЁМКІН, БелаПАН**

# Прыбыла эканамічная місія з Чэхіі

29 кастрычніка ў Мінск прыбылі прадстаўнікі сямі прадпрыемстваў Чэхіі. Мэтай візіту з'яўляецца наладжванне супрацоўніцтва з беларускімі прадпрыемствамі і арганізацыямі.

Прыбыўшыя ў Мінск прадстаўнікі чэшскіх прадпрыемстваў зацікаўленыя ў пастаўках у Беларусь сваёй прадукцыі. Размова ідзе пра абсталяванне для асфальтавых заводаў, энергетычныя комплексы, новыя і мадэрнізаваныя трамвайныя вагоны, а таксама пра продаж запчастак да грузавых аўтамабіляў «татра», тэхналогіі для хімічнай, харчовай і нафтаперапрацоўчай прамысловасці. Акрамя гэтага, чэшскі бок гатовы прапанаваць свае паслугі ў галіне рэканструкцыі трамвайных пуцей і зацікаўлены ў наладжванні кааперацыі з беларускімі вытворцамі тралейбусаў.

Гандлёва-прамысловая палата па краінах СНД арганізуе прадпрымальніцкія місіі, сустрэчы і перамовы паміж чэшскімі прадпрымальнікамі і іх калегамі з краінаў Садружнасці, праводзіць семінары, прадастаўляе кансультацыйна-юрыдычныя паслугі і арганізуе навучанне спецыялістаў з краінаў СНД. Падчас цяперашняга візіту прадстаўнік палаты мае намер правесці перамовы ў беларускім Нацыянальным цэнтры маркетынга і кан'юнктуры цэнаў для заключэння двухбаковага пагаднення аб супрацоўніцтве. Акрамя таго, ён выступіць прадстаўніком інтарэсаў ста фірмаў — членаў палаты, зацікаўленых у супрацоўніцтве з Беларуссю.

**Ірына САЗАНОВІЧ**

# «Рассмотрев Ваше заявление в Администрацию Президента...»

НАША СВАБОДА ў нумары за 3 жніўня гэтага года надрукавала артыкул, у якім ішла размова пра незайздросны эксплуатацыйны лёс жылога дома № 76 (вул. Ландэра, мікраранён «Курасоўшчына»). На жаль, мусім заўважыць, што і праз тры месяцы пасля публікацыі для вырашэння праблемы зацякання даху згаданага будынка адказнымі службамі нічога не зроблена.

Зрэшты, мы былі б няўдзячнымі паклёпнікамі, каб не прыгадалі наступны тэкст, прысланы на імя аднаго з кватэранаймальнікаў. Цытуем: «Рассмотрев Ваше заявление в Администрацию Президента Республики Беларусь, сообщаем, что текущий ремонт кровли Вашего дома отдельными местами выполнен. После проверки качества выполненных работ будет выполнен ремонт по удалению следов залития в Вашей квартире. Директор объединения П.П.Степанов».

Як бачым, гэты геніяльна лаканічны дакумент пад выходным нумарам 698, падпісаны дырэктарам ЖРЭА Кастрычніцкага раёна г.Мінска Сцяпанавым, з'яўляецца прыкладам звычайнай чыноўніцкай паперытворчасці на самым схіле першай прэзідэнцкай сямігодкі. Праўда, у выпадку з заявай, пададзенай 30 ліпеня сёлета на імя дэпутата Палаты прадстаўнікоў Уладзіміра Парфяновіча, жыхары «мокрага» 76-га дома нават такога ўзору адпіскі не маюць. Відаць, ёмка і надзейна сядзіцца Уладзіміру Уладзіміравічу ў «палатачным» крэселцы, відаць, таварыш дэпутат моцна заняты ратыфікацыяй прэзідэнцкіх указаў, калі дазваляе сабе не адказваць на запыты ўласных выбаршчыкаў.

А яшчэ кажуць, што дэпутаты ў нас ручныя і «бацькі» баяцца!..

**Міраслаў ЧАНТАРЫЦКІ, Сяргей ДУБОВІК**

# Семінар спецыялістаў па здароўі

29 кастрычніка ў Мінску ў рамках праекта «Стымуляванне дзейнасці цэнтраў здароўя Рэспублікі Беларусь па прафілактыцы ВІЧ/СНІД» адкрыўся навучальны семінар для спецыялістаў цэнтраў здароўя. Ён арганізаваны Прадстаўніцтвам ААН у Беларусі і Фондам ААН у галіне народанасельніцтва сумесна з Рэспубліканскім цэнтрам здароўя.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-цэнтры міністэрства аховы здароўя, мэтай гэтага семінара з'яўляецца павышэнне ўзроўню падрыхтоўкі ўдзельнікаў па пытаннях прымянення камунікацыйных тэхналогіяў у сферы прафілактыкі ВІЧ/СНІД і інфекцыяў, якія перадаюцца палавым шляхам, а таксама па метадах ацэнкі эфектыўнасці іх прымянення. Акрамя таго, падчас семінара будуць абмеркаваныя псіхалагічныя і соцыадэмаграфічныя кампаненты працэсу змянення паводзінаў, а таксама адбудзецца знаёмства з формамі і метадамі ўздзеяння на чалавека на кожным этапе працэсу змянення паводзінаў. Семінар працягнецца да 2 лістапада.

Паводле звестак Рэспубліканскага цэнтра прафілактыкі СНІД, на сённяшні дзень колькасць ВІЧ-інфіцыраваных у Беларусі складае каля 4 тысяч. У параўнанні з 2000 годам гэты паказчык вырас больш чым на тысячу. Пераважная большасць ВІЧ-інфіцыраваных — маладыя людзі рэпрадукцыйнага ўзросту, ад 15 да 34 гадоў. Па прагнозах спецыялістаў, да 2005 года пры захаванні наяўных тэндэнцыяў развіцця эпідэмічнага працэсу і сацыяльных фактараў колькасць зарэгістраваных у Беларусі ВІЧ-інфіцыраваных ва ўзросце ад 15 да 50 гадоў перавысіць 12,5 тысяч.

**Вольга АСІПЕНКА**

ЭКСПРЭС

# Прогнозы, долги, расчеты

## Курение станет более накладной привычкой

Скоро в Беларуси подорожают сигареты иностранного производства. Для поддержки местных производителей временно вводится специальная пошлина на импорт табачных изделий. Она будет действовать три месяца и составит 30% от таможенной цены. Эта вынужденная мера вызвана тем, что из ряда стран в Беларусь идет огромный поток дешевых сигарет. По данным Госкомтаможни Беларуси, в страну в прошлом году было ввезено более 5 млрд. сигарет. Белорусские же производители за 2000 год выпустили около 10 млрд. сигарет. После введения спецпошлины все импортные сигареты, за исключением российских, подорожают.

## Планы по иностранным кредитам

В 2002 году в белорусскую экономику может быть привлечено около 1 млрд. долларов иностранных инвестиций. Как сообщил председатель правления Национального банка Петр Прокопович, в частности, планируется привлечь около 350 млн. долларов иностранных инвестиций под гарантии правительства Беларуси, еще 200-250 млн. долларов — под гарантии Нацбанка. Остальные средства могут быть привлечены за счет создания совместных предприятий, акционирования и через работу коммерческих банков республики с иностранными партнерами.

## Последнее слово — за электронной карточкой

Первый миллион электронных пластиковых карт для универсальных таксофонов выпустило в октябре республиканское предприятие «Центральный проектно-технологический институт» министерства промышленности. Эта продукция уже в течение года реализуется в Беларуси под маркой «Еврочип-2». С помощью таких карт евростандарта можно позвонить в любую точку мира. Они имеют высокую степень защиты от подделки и фальсификации. Наряду с этой продукцией, прорабатываются и новые направления более широкого применения карточек — дебетные карты для предварительной оплаты товаров и услуг, электронные карточки для страхования и медицины, банков и другие типы.

## «Гуманизация» международного кредитования

Великобритания закрыла все кредитные линии на экспортные британские продажи в 65 государств с развивающимися экономическими системами. Об этом сообщил британский министр финансов Гордон Браун. Он выступил с призывом ко всем странам — ведущим экспортерам оружия также ограничить кредитование военных поставок в бедные регионы, переориентируя средства на повышение их благосостояния. Кроме того, на прошлой неделе в Вашингтоне состоялось заседание министров финансов семи ведущих государств-доноров, на котором было вынесено решение резко усилить финансирование международных программ гуманитарной поддержки бедных стран. В частности, в Глобальный фонд здравоохранения «семерка» выплатит к 1 декабря до 3 млрд. долларов. Это в 2 раза больше суммы, находившейся в распоряжении фонда в июле.

**Андрей КАРПОВИЧ**

# Вожди торопились, когда хотелось расстрелять

Политический скандал, возникший в связи с расширением Минской кольцевой дороги по территории мемориала в Куропатах, выявил истинное отношение властей к жертвам политических репрессий. Оно не просто равнодушное, оно отрицательное как в психологическом восприятии властью этой трагедии нашего недавнего прошлого, так и в политическом отношении, и в социальных мерах, призванных хоть какой-то долей компенсировать государственную вину перед сотнями тысяч без вины репрессированных людей. Для Беларуси это тем более актуально, что тут через механизм некорректных вопросов на референдуме 1995 года были реставрированы с малой степенью модернизации госфлаг и госгерб сталинского образца. Иными словами, символически осуществилось ностальгическое чувство о вроде бы лучших временах. Непонятно, правда, чье чувство? Поэтому не видно желания и соответственной работы, чтобы восстановить доброе имя всех сотен тысяч пострадавших людей и осмыслить тоталитарное историческое прошлое. Архивные документы, связанные с политическими репрессиями, по-прежнему почти недоступны. Места массовых захоронений жертв террора установлены только на 20-30%. В школьных учебниках история сталинских репрессий занимает ничтожное место. Публикация списков жертв террора вообще не начата.

Льготы лицам, признанным жертвами политических репрессий, мизерные в сравнении с теми, которые получают сейчас лица, угнанные в Германию во время Второй мировой войны. Бывшие политические заключенные лишены льгот, которые им прежде предусматривались (бесплатный проезд на городском и железнодорожном транспорте, 50% оплаты жилья, бесплатная установка телефона). Не установлен статус детей, оставшихся в несовершеннолетнем возрасте без попечения родителей, осужденных в сталинское время. А ведь они имеют право на льготы, хоть многие из них давно достигли пенсионного возраста. Даже о самой деятельности комиссии по реабилитации не слышно ни звука, похоже, что она уже неживая. Поэтому представляет интерес, как действует Комиссия по реабилитации жертв политических репрессий при президенте России, которую возглавляет академик Александр Яковлев. Предлагаем вниманию читателя интервью, которое он дал «Общей газете» в связи с Днем памяти жертв политических репрессий.

***— Александр Николаевич, ходили слухи о расформировании вашей комиссии. Что она успела?***

— Мы реабилитировали военнослужащих, миллионы военнопленных, которых Сталин бросил в лагерях Гитлера, и через 50 лет признали их полноправными солдатами... Было около 300 тысяч расстрелянных священников, даже в войну до тысячи священнослужителей в год арестовывались, многие из них были расстреляны. Это, конечно, для них, мертвых, — ничто, но для их родственников реабилитация — великое дело, это многого стоит. Большим событием была реабилитация крестьянства. Тоже миллионы невинных людей... Я знаю, что есть люди, особенно много их среди членов КПРФ, которые считают, что не нужно будоражить память людей реабилитацией. Это дурацкая постановка вопроса: ведь только правда может успокоить людей и очистить государство от уголовного прошлого.

***— И сколько же всего реабилитированных?***

— Мы реабилитировали около четырех с половиной миллионов человек. Но это только те, кто прошел, скажем так, через наши руки.

***— Охотно ли правоохранительные органы вам помогают?***

— Никаких препятствий нет, тем более, что их руководители сами входят в комиссию. Хотя некоторые начальники неохотно расстаются с документами. Если бы я был на их месте, то, наверное, у меня появилось бы то же самое чувство — не давать их никому, потому что стыдно, по-человечески стыдно за деяния предшественников. Ведь если ты работаешь в конкретной сфере, то у тебя появляется некий «патриотический кретинизм», становится неудобно за контору, когда видишь, что на основании анонимного доноса расстреливают рассказчика анекдотов о Сталине... Или, скажем, на восток едут помощники Ежова и берут с собой три тысячи дел. В поезде, пьяные, соревнуются, кто быстрее поставит на делах букву «Р». Не читая дел, ставят знак о расстреле. Существовало даже соревнование между отделами — кто больше политических дел заведет. Подобные вещи — по ту сторону добра и зла... Сейчас мы рассматривали дела военных. Армию нашу начали уничтожать начиная еще с Кронштадта, а не только перед войной.

***— Вы себе не пытались объяснить, почему это происходило?***

— Это понять невозможно. Я пытался понять... Есть, видимо, в человеческой породе, психологии то, что объяснить невозможно. Ведь не объяснение же, что Сталин был параноиком. Родственников всех своих расстрелял, родственников обеих жен... Как-то вспомнил о своем друге в Грузии, пригласил его, давно не виделись. Выпили, поужинали. Ночью за ним пришли в гостиницу и той же ночью расстреляли. Как это возможно?

Вожди очень торопились, когда речь шла о расстрелах. К примеру, только 22 ноября 1937 года Сталин, Молотов и Жданов утвердили 12 списков на 1.352 человека, 7 декабря того же года — 13 списков на 2.397 человек, из которых 2.124 подлежали расстрелу. 3 января 1938 года те же и Ворошилов с Кагановичем утвердили 22 списка на 2.770 человек, из них 2.547 подлежали расстрелу, в феврале — 28 списков на 3.699 человек, из которых 3.622 подлежали расстрелу, в марте — 36 списков на 3.286 человек, из них 2.983 на расстрел. В апреле без участия Ворошилова утвердили 29 списков на 2.799 человек, 10 июня 1938 года Сталин и Молотов подписали 29 списков на 2.750 человек, из них 2.371 человек подлежал расстрелу, 12 сентября Сталин, Молотов и Жданов утвердили 38 списков на 6.013 человек, из них 4.825 к расстрелу.

Подпись Молотова имеется на 373 списках на 43.569 человек, Сталина — на 361 списке на 41.391 человека, Жданова — на 175 списках на 20.985 человек, Кагановича — на 189 списках на 19.110 человек, Ворошилова — на 186 списках на 18.474 человека.

20 августа 1938 года Сталин и Молотов утвердили представленный Ежовым список на осуждение по «первой категории» 15 жен врагов народа, все они были расстреляны. В списке, в частности, значились жены Чубаря, Эйхе, Косиора, Егорова, Скрыпника, Дыбенко, Агранова, Артузова и других. Из 15 расстрелянных 10 были домохозяйками и две — студентками. Их мужья были расстреляны позднее, в начале 1939 года. Репрессиям в качестве членов семей изменников родины и врагов народа подверглись 40.056 человек.



Фота IREX/ProMedia

***— Светлана Аллилуева возлагает большую часть вины на Берию...***

— Берия-то пришел в 1938-м, а сколько до Берии было уничтожено Ежовым, Ягодой? Берия ведь хитрый был, ничем, конечно, не лучше, чем другие, но в 1938 году он стал чистить НКВД. Но потом он стал делать то же самое, что и его предшественники. Сталин предпочитал назначать людей необразованных, людей с вымытой совестью. У них не было никаких моральных тормозов: надо расстрелять — то расстрелять. Вот Каганович любил писать резолюции о расстрелах матом, на человеческих судьбах. Эту проститутку, эту б... — писал, — эту гадину расстрелять. О, Господи, стыдобушка, еще и хуже писали, хуже!!! О бывших друзьях писали в том же стиле. Фонд "Демократия» выпустил 21 том документов, в том числе с подобными резолюциями.

***— Вы как-то говорили о том, что в 2002 году будет создан Музей ГУЛАГа...***

— Давно бы пора, я выступал по этому поводу, письма подписывал... Но, скажем, в Магадане есть подобный музей. Жуткий музей, но он очень точно напоминает человеку о зверстве человека, о его низости, подлости. Там есть потрясающий лозунг: «На заботу партии и правительства о нас, зэках, ответим стахановским трудом».

**Наталья РОСТОВА**

*Печатается в сокращении*

# Пад знакам тэрору

*11 верасня, дзень тыдня – аўторак. Надвор'е – сярэдняе, восеньскае, усяго патроху: неба, сонца, ветру і цяпла. Мы валяемся на канапе і спрабуем разважаць над падзеямі апошніх дзён. А чацвёртай гадзіне дня ўключылі тэлевізар «Верас». Расійскі канал НТБ пачынаў паказ серыялу «Хуткая дапамога». Праз некалькі хвілінаў гераічныя амерыканскія дактары і доктаркі зніклі з экрану, а замест іх з'явілася карцінка CNN і дыктар НТБ усхвалявана паведаміў, што некалькі хвілінаў назад самалёт класу «Боінг» пратараніў паўночную вежу Сусветнага гандлёвага цэнтру ў Нью-Ёрку.*

З гэтага моманту і аж да позняга вечара мы не адрываемся ад тэлеэкрану. *CNN* перадае відэакарцінку з Нью-Ёрку ў рэжыме рэальнага часу і разам з мільёнамі людзей ува ўсім свеце мы робімся сведкамі пачатку новай эры чалавецтва. Пасля таго, як вежы Сусветнага гандлёвага цэнтру перасталі існаваць, мы разумеем, што сутнасцю і сцягам гэтай эры будзе транснацыянальны тэрор.

Самалётныя атакі на Пентагон і хмарачосы-блізняты ў Манхэтане сталі атакамі на душу дзяржавы ЗША і амерыканскага народу. Разбітае сэрца амерыканскай ваеннай машыны Пентагон – можа адратаваць толькі паўнамаштабная наземная вайна. Шматкалёрны сцяг тэрору ўжо лунае над усёй планетай...

Той самы дзень, 11 верасня, надвечар, тэлефануе нам Алена, наша знаёмая. Пытаецца, ці глядзім тэлевізар, і тут жа нагадвае пра радкі, якія напісалі мы год назад у тым самым Нью-Ёрку. Радкі пра тое, што кожнага ў гэтым жыцці нешта грэе, як, напрыклад, – «грэе араба магчымасць зраўняць хмарачосы Манхэтану з акіянічным узроўнем».

«Ну вось, – кажа Алена, – цяпер магчымасць стала яваю сусветнага маштабу. Вось дзе ўжо сапраўды – «нам не дано предугадать, как слово наше отзовется».

Асаблівасць званка Алены яшчэ і ў тым, што яна малой дзяўчынкай перажыла чыгуначную катастрофу і цудам выжыла. Тады, у 70-х, пад Мінскам сутыкнуліся пасажырскі цягнік і электрычка. Быў выхадны дзень, вагоны, поўныя людзьмі... Маштабы трагедыі ўлады стараліся не афішаваць. Абываталь на кухнях гаварыў у тым ліку і пра магчымасць тэракту...

Адзін з галоўных прынцыпаў тэрору і тэрарыстаў – ніхто не свабодны ад віны. Абвешчаны еўрапейскімі анархістамі яшчэ ў XIX ст., ён дзейнічае і сёння. Для ірландца, які змагаецца за незалежнасць Ірландыі, ворагам з'яўляецца не толькі англійскі салдат, але і афіцыянт-англічанін з Лонданскага рэстарану. Тое самае і ў курдаў, баскаў, каталонцаў, чачэнцаў, беларусаў... Для тэрору ўвесь свет з'яўляецца тэрыторыяй барацьбы, на якой няма ні перадавых, ні тылоў. Кожны тэракт самадастатковы ў самім сабе, як кропка ў канцы сказу. І чым больш дзёрзкім будзе кожны новы выбух, кожны стрэл – тым больш значнай будзе кропка – галоўны сімвал у практыцы тэрору. І ніхто не можа ведаць, дзе і калі яна будзе пастаўлена наступны раз.

Тэарэтык рускага анархізму Пятро Крапоткін пісаў у свой час: «Ёсць перыяды ў жыцці чалавецтва, калі глыбокія зрухі, вялізарны пераварот, здольны раскатурхаць грамадства да самай глыбіні яго асноваў, робіцца непазбежна неабходным ва ўсіх адносінах. У такія часы кожны сумленны чалавек пачынае ўсведамляць, што далей працягваць тое ж самае жыццё немагчыма. Трэба, каб якія-небудзь велічныя падзеі раптам перарвалі пупавіну гісторыі, выкінулі чалавецтва з каляіны, у якой яно зарасло, і штурхнулі яго на новыя шляхі – у сферу невядомага, у пошукі новых ідэалаў».

Возьмем, сучасную беларускую сітуацыю. Актыўны сегмент нашага грамадства за апошнія пяць гадоў палітычнай барацьбы прайшоў шлях праз моманты нацыянальнага пад'ёму ў 96-м, 97-м і 99-м гадах. Аднак у выніку энтузіязм масаў быў растрачаны на семінарах кшталту «Як нам жыць лепей?». 9 верасня ахвярная кабыла беларускай палітычнай апазіцыі здохла, не дацягнуўшы свае худыя клубы да месца страты. Тысячы беларусаў, якія гадамі хадзілі пад дубінкі міліцыі і нават у турмы, засталіся без нічога.

Праблемы беларускага грамадства і ЗША несувымерныя, але і яны, і мы патрабуем адплаты за зганьбаванне нашага нацыянальнага імя. Толькі наш вораг знаходзіцца побач з намі, перамяшчаецца па вуліцах нашых прасторных гарадоў, улазіць у нашыя душы газетнымі тэкстамі, аўдыёпрамовамі і відэакарцінкамі Белтэлерадыёкампаніі. Мы прайграем свайму апаненту, бо відавочна слабыя. Амерыканцы пачалі прайграваць з-за таго, што занадта моцныя.

Атакі на шматпакутны Афганістан называюць кантртэрарыстычнай аперацыяй, але наўрад ці такая дэфініцыя можа падцурыць тых, хто здольны разважаць цвяроза. Ніякіх тэрарыстаў гэтыя ўдары не дастануць. Больш таго, мы маем смеласць думаць, што ініцыятар атак на Нью-Ёрк і Вашынгтон якраз і планаваў выклікаць агонь на сябе. Каб у выніку гэтага ўдару помсты аб'яднаць антыамерыканскія сілы так званага трэцяга свету.

Малаверагодна, што барацьбу волатаў «залатога мільярду» і араба-мусульманскага свету будуць спакойна сузіраць полірэлігійная горная Афрыка, сакральная Індыя, Кітай. Гэтыя цывілізацыйныя архіпелагі могуць і не вытрымаць тэктанічных зрухаў у Еўропе і на амерыканскім кантыненце (маем на ўвазе інтэнсіўнае пранікненне арабаў у свет белага чалавека).



У сувязі з адзначаным прыгадваецца пяцігадовай даўніны сядзенне наша ў ізалятары в/ч 2044 Смаргонскага пагранатраду. Тады, у красавіку 1996 года, акрамя нас пры спробе пераходу беларуска-літоўскай мяжы былі затрыманыя чалавек 15 пакістанцаў. Кіраўніка іхнай групы, худога і змарнелага безбародага маладзёна, пасадзілі ў нашу камеру. Калі прынеслі пайку з салдацкага стала – пшонную кашу, густа запраўленую тлушчам і ладнымі кавалкамі сала – згаладнелы пакістанец спярша не хацеў падступацца да яды. Але ўбачыўшы, з якім апетытам мы затачылі нашу порцыю, здаўся на міласць свайго бога і, хістаючы не па-тутэйшаму галавой, звеў рахункі і з пшонкай, і з салам.

Цікавае ў гэтым эпізодзе не тое, што галодны чалавек мусульманскай веры зграшыў на свіным сале, а пытанне, якія з гэтага факту для нас вынікаюць: ці будзем здольныя мы, свінаеды, перайсці на бараніну з канінай, калі іншыя ўрэшце прыйдуць і сядуць з намі за адзін стол?

Перафразуючы Францішка Аляхновіча, круці ня круці, а нам цяпер трэба стараца, каб не памерці. Не памерці проста так, пад абломкамі якіх-небудзь хмарачосу, якія і не наш нават, і ў якім мы ў лепшым выпадку працуем падмятальнікамі.

Завяршаючы гэтыя нататкі, завершым іх другой часткай нашага верша, пачатага год таму ў Нью-Ёрку. Дасць Бог, новыя радкі застануцца толькі радкамі, а мы нават пад знакам тэрору не станем на калені. Няхай кожнага нешта грэе: жанчынаў грэюць мужчыны; Улада – таго, хто хоча Ўлады над сакратаркай, праходзячы ў свой раскошны З дубовым сталом кабінет; Ідэалістаў грэюць Ідэі тамамі кніжак; Гербарыі грэюць батаніка Сухімі пялёсткамі кветак; Грэе прыборная дошка Лётчыка ў сінім небе... І няхай нарэшце скончыцца тое, калі толькі Тутэйшага грэюць Подлыя рабскія словы: «Каб толькі ўсё было ціха, Абы толькі без вайны». Але прыходзіць вайнушка Туды, дзе рабскае племя Штодня з гэтай фразай на вуснах Жыве і капошыцца ў брудзе, І першым тады забіваюць таго, хто стаіць на каленях І не за свабоду моліцца, А – «каб вайны не было».

**Славамір АДАМОВІЧ**

## Сустрэчы на «Дзяды»

2 лістапада ў сталічным парку імя Янкі Купалы плануецца правядзенне літаратурнай сустрэчы. Ініцыятарам акцыі выступіла Мінская гарадская рада ТБМ.

У сустрэчы, якая распачнецца ля помніка песняру ў 18 гадзінаў, выступяць вядомыя беларускія паэты, барды і вучоныя-літаратуразнаўцы.

Арганізатары акцыі запрашаюць да ўдзелу ў ёй усіх прыхільнікаў нацыянальнай паэзіі.

Разам з тым 30 кастрычніка ў 17.30 гарадская рада ТБМ мае на мэце правесці ўскладанне кветак да магілаў народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа на Ваенных могілках Мінска. Абедзве акцыі праводзяцца напярэдадні дня памяці продкаў «Дзяды», які адзначаецца 3 лістапада.

**БелаПАН**

## Жанчыны і гвалт

Беларускі фонд фундаментальных даследаванняў правёў сацыялагічнае апытанне сярод студэнтак трох сталічных ВНУ і трох ПТВ у межах даследавання на тэму «Гвалт у адносінах да маладых жанчынаў як сацыяльная праграма». Рэспандэнткамі сталі тыя, хто вучыцца ў Белдзяржуніверсітэце, політэхнічнай акадэміі і жаночым недзяржаўным інстытуце «Энвіла», а таксама ў вучэльнях побытавага абслугоўвання насельніцтва, будаўнікоў і чыгуначнага транспарту.

Паводле вынікаў гэтага апытання, выявілася, што 53% дзяўчат назвалі хатнія пакаранні бацькоў дзяцей патрэбным элементам выхавання. 13% дапускаюць фізічны гвалт над жанчынай з боку мужчынаў.

**Алесь КАТОВІЧ**

## Віцебскія балалаечнікі граюць для палякаў

Да 25 лістапада працягнуцца ў Паморскім ваяводстве Польшчы гастролі актэту балалаек «Віцебскія віртуозы» Віцебскай абласной філармоніі. Як паведаміла прэс-служба беларускага МЗС, гастролі арганізаваныя генконсульствам Беларусі ў Гданьску сумесна з Гданьскім аддзяленнем Польскага саюза музыкантаў.

Беларускія музыканты выконваюць творы айчынных і замежных кампазітараў, народныя напевы і песні. Падчас гастроляў актэт дасць больш за 80 канцэртаў у школах, сярэдніх і вышэйшых навучальных установах. Прадугледжаныя выступленні перад беларускай і расійскай дыяспарамі, грамадзянамі Беларусі і Расіі, што працуюць па кантракце на гданьскіх верфах, а таксама дабрачынныя канцэрты ў Слупску (збор пойдзе ў фонд дапамогі таленавітым дзецям) і ў Гданьску (у фонд дапамогі дзецям-інвалідам).

**Наталля КУЛАГІНА**

**СІМВАЛЫ**

## Янкі на кірмашы

Яшчэ да таго, як гімн горада з'явіўся ў Мінска, свае ўласныя гімнікі прыдбаў кожны ягоны раён. Музыка і словы да іх, як кажуць у мінгарвыканкамаўскай управе культуры, напісаныя мясцовымі самадзейнікамі. Нядаўна на адным з шматлікіх святочных кірмашоў, якія восеньскай парой у нас павялося ладзіць ледзьве не кожныя выхадныя, давялося пачуць адзін такі раённы гімн. Мой першы рэфлексійны рух – кручэнне пальцам ля скроні. Цытую радок з летуценнага па ўсім прыпеве: «Ленінскі раён – як амерыканскі Вашынгтон». А Заводскі – значыць, па аналогіі як Парыж, Маскоўскі – Лондан, ды гэтак далей..?

Праўда, падумалася, ці не ёсць гэтае параўнанне Ленінскага раёна Мінска, жыхарам якога, як і ўсяму насельніцтву Беларусі, светлай будучыняй даводзіцца пра 250 долараў цягам 5 гадоў, не з чым-небудзь, а ажно са сталіцай заможных Злучаных Штатаў проста прыхаваным сцёбам? Антыпрэзідэнцкім, антыдзяржаўным, ці, дакладней, антыраённым, калі заўгодна? Мо з вашынгтонскімі трушчобнымі кварталамі ўпотай параўноўвае свой любімы/нелюбімы Ленінскі раён аўтар словаў да ягонага гімна?



Што да кірмашу, то відовішча тое, на жаль, не дало прагнаць з галавы прэч першую ацэнку згаданага гімнавага сачынення. У дастойны яго працяг ад сцэны пад адкрытым небам нясецца расійская папса і сіпатыя спевы рускіх народных песень тых месцічаў, хто ўжо лічыць, што ягоныя галасавыя звязкі ўжо змочаныя як след дзеля таго, каб даставіць дэцыбельную радасць усяму наваколлю. Цёмныя не па тутэйшым кліматычных умовах асобы гатуюць ім на закуску шашлыкі. Але тыя іх не купляюць, задавольваючыся бутэрбродамі з суседняга універсама. А потым на вачах у дзяцей разам з сабакамі апраставаюцца пад дрэвамі трохі зводдаль ад кірмашовых палатак (каля кабінкі-біяпрыбіральні чарга з дзесятка чалавек).

Падчуў размову двух дзядзькоў, якія мелі гонар рэпрэзентаваць сабой Трактарны.

— Ну ты ўжо? (фраза суправаджаецца адмысловым жэстам – шчаўчком пальца – па горле)

— А я – так! 185 грамаў, то мая новая пачатковая норма. Ні 150, ні 200, а менавіта 185. А каб ніхто не здагадаўся!

Далей іхняя гаворка паступова пераходзіць на тэму здароўя:

— Я ні ад цырозу, ні ад сібірскай язвы не памру. Толькі ад нерваў: не будзе чаго выпіць, распсіхуюся – і капец!

Але большасць прыйшла на кірмаш запасацца на зіму, бо не з гарэлкі адной жывы беларус. Тут з машынаў прадаюць капусту і бульбу. Гэтую звычайную для беларускага стала гародніну людзі цягнуць дадому і на аўто, і на цялежках, і на гарбе.

Карацей, усё як у нейкім там амерыканскім Вашынгтоне!

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

# США, Европа, мы

*С октября 1921-го по июль 1923-го в СССР работала American Relief Administration — «Американская администрация помощи» (ARA). Советское правительство выразило благодарность американскому народу за спасение многих городов и деревень страны от голодной смерти. Это вовне. Но собственные граждане от пропаганды знали: АРА содействовала «ослаблению в Америке кризиса сбыта товаров» (Малая советская энциклопедия, 1930), «не упускала возможности для шпионско-подрывной деятельности и поддержки контрреволюционных элементов» (Большая советская энциклопедия, 1950), «правящие круги США пытались использовать ее для поддержки контрреволюционных элементов и шпионско-подрывной деятельности» (БСЭ, 1970), «ее органы нередко действовали во враждебных сов. гос-ву целях» (Советский энциклопедический словарь. Изд. четвертое, испр. и доп., 1990).*

Американскому налогоплательщику спасение от голода наших сограждан обошлось примерно в 137 миллионов золотых рублей (согласно БСЭ, 1926). Это только деятельность АРА, а были и другие общественные и религиозные организации, участвовавшие в этой работе. Американское общество и американское правительство спасали тогда от смерти живую силу противника, которая для них — это надо обязательно понять и запомнить — оказалась в первую очередь людьми, нуждающимися в помощи.

Почему в нашем обществе не сохранилась об этом память — вопрос скорее психологии, а не идеологии. Наша память избирательна и неблагородна. Но кроме того, не верим мы, что наряду с экономическими выгодами и политическими дивидендами, а то и вопреки им, действиями людей и сообществ движут некие идеальные начала. Наша собственная история дает тому мало подтверждений; а наше личное бытие среди себе подобных учит закону джунглей: сегодня — ты, а завтра — я.

О благотворительной помощи, оказанной Соединенными Штатами нам дважды в XX веке (во время голода в Поволжье и во время войны с фашистской Германией — оба раза несмотря на то, что СССР был идеологическим противником), кто знал — забыл, кто помнил — помалкивал, кто родился после войны — слыхом не слыхивал.

Не могли прочесть в доступной прессе и о том, что ООН создавалась по инициативе американского президента Рузвельта (как после Первой мировой — Лига Наций по идее президента Вильсона) и, возможно, если бы не неожиданная кончина инициатора, оказалась бы более эффективным инструментом для разрешения международных конфликтов, чем ныне, то есть организацией с некоторыми чертами мирового правительства, а не только форума.

Соединенные Штаты при всем географическом несоответствии и этническом разнообразии не только принадлежат, но и активно развивают европейскую цивилизационную модель (человечество как универсум), являясь своего рода лабораторией и в силу обстоятельств гарантом развития межгосударственных и межличностных отношений в этом направлении — Новой Атлантидой Бэкона, воплощением не идеальным, но в реальности.

Становлению западной цивилизационной модели как общего мира способствовало относительное этническое единство европейских народов. Существование в традициях греко-римской культуры — унаследованы этические и эстетические эталоны, общий алфавит, общая идеология — христианство, видоизменившееся в ходе религиозных войн, но оказавшееся способным к эволюционному мышлению при сохранении нравственного императива, — задало единое направление и единый ритм развития. При всех противоречиях и ошибках, присутствующих в истории и настоящем, следует помнить, как противоречия разрешались и какие выводы следовали за ошибочными действиями.

Пример Германии, развязавшей и проигравшей две мировые войны и ставшей после напряженной внутренней работы и благодаря поддержке бывших противников — США, Англии и Франции — одним из гарантов стабильности в Европе. Пример Японии, в первой половине прошлого столетия проводившей активную милитаристскую политику, результат которой — агрессия против Китая, Кореи, США, СССР, однако нашедшей иную точку приложения сил и занявшей важное место в мировой экономике. Пример Турции, сформировавшейся в противостоянии с христианской Европой и оказавшейся со второй половины XX века союзницей западной демократии. Общности, отличные друг от друга по географическому положению, представляющие различные этносы, исповедующие мировые религии, каждая из которых стремится к универсализму, продемонстрировали волю к ревизии ценностных ориентиров и достойному существованию в рамках единой цивилизации.

В заданном режиме эволюционировало и отношение к носителям власти, уточнялось понятие легитимности: от aristos («лучших») к publicum («всем»).

Таким образом постепенно и целенаправленно в рамках западной культуры — эклектичной, восприимчивой и открытой — понятие «свои» расширяется до границ вида: homo sapiens, что мы переведем как «равный» — от греческого homos — и «разумный». То есть постепенно и целенаправленно осуществляется переход к миру личностей, которым не надо самоутверждаться за счет друг друга, к сообществу производителей материальных и духовных ценностей, в котором сотрудничество предпочтительнее соперничества.

Ошибки и несоответствия, сопутствующие становлению мира как общего пространства, сопровождают любую человеческую деятельность, каждый эксперимент, всякую работу, даже безделье, и отношение к ним должно быть как к ошибкам, которых хотелось бы избежать и которые следует исправить.

Нам, современным мешочникам, исчелночившим планету в поисках ширпотреба, для понимания происходящего в мире необходимо выйти за границы личного опыта.

Сомнительным представляется привлечение в качестве экспертов и свидетелей реэмигрантов, недовольных бывшими новыми родинами и вот получивших шабашку на вновь обретенной. Варяги, курсирующие в греки и обратно, проникают в свободный мир в качестве мучеников и возвращаются уже с повышением статуса: пророками, обличающими тамошнюю бездуховность.

В отсутствие внешнего врага — реального или виртуального — традиционное общество уничтожает само себя, то есть находит крайнего среди своих, распадается на враждующие округа, семьи, наконец, единицы, — всегда найдется кто-то не столь правоверный или православный, как я сам. Уклад обеспечивает, то есть вручает разрешение на зверство по отношению к живущим иной жизнью, поощряет и оправдывает — снабжает уважением со стороны менее отчаянных или более вменяемых членов сообщества и позволяет релаксировать в насилии. Убийство населения, а не



конкретных должностных лиц, которым перепоручена честь и ответственность принимать и проводить решения, прямо обнаруживает цель — уничтожение не похожих на тебя (по вере, образу мыслей, манере поведения — критерии произвольны), остальное — предлоги.

Людям вообще свойственно абсолютизировать собственные пристрастия и приоритеты, а недостаточно образованным — существующим в границах этнокультуры и моноидеологии (от правоверных арийцев до истинных талибов) — навязывать их в качестве всеобщего идеала силовыми методами, потому что для ведения спора необходимы некоторый интеллектуальный уровень, а в качестве аргументов нечто более существенное, чем самомнение.

Мы как общность, с моей точки зрения, не готовы психологически и потому не поспеваем с нашими реакциями и отношениями за ходом мировой истории. Не замеченным, но важным оказалось, как представляется, то, что новые экономические и социальные отношения, состоявшиеся в Европе, получили религиозную санкцию сначала со стороны протестантских церквей, позже — римско-католической. То есть развитие в сфере материальных отношений сопровождалось изменениями в духовной сфере и наоборот. Нам необходимо деятельное и бескорыстное участие в борьбе со злом прежде всего ради воскресения собственных духовных ценностей, изменения собственного отношения к миру и человеку.

**Юрий ГОНЧАРОВ**

**НУМІЗМАТЫКА**

## Памятныя манеты

30 кастрычніка Нацыянальны банк Беларусі ўводзіць у абарачэнне памятныя манеты «Белавежская пушча. Зубр» серыі «Нацыянальныя паркі і запаведнікі Беларусі»: сярэбраная — вартасцю 20 рублёў і медна-нікелевую — вартасцю 1 рубель, а таксама сярэбраную памятную манету «Біятлон», прысвечаную Алімпійскім гульням 2002 года, наміналам 20 рублёў.

Памятныя манеты «Белавежская пушча. Зубр» серыі «Нацыянальныя паркі і запаведнікі Беларусі» маюць форму круга, бакавая паверхня манетаў рыфлёная. На вонкавым баку манетаў размешчана: у крузе, абрамлёным геаметрычным арнаментам, — рэльефны відарыс Дзяржаўнага герба Беларусі, пад ім названы год чаканкі; па кругу надпісы: у верхняй частцы — «РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ», у ніжняй — «ДВАЦЦАЦЬ РУБЛЁЎ» — на сярэбранай і «АДЗІН РУБЕЛЬ» — на медна-нікелевай.

На адваротным баку манеты размешчаны рэльефны відарыс галавы зубра на фоне стылізаванага лесу; па кругу надпісы: злева ўверсе – «БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА», унізе – «ЗУБР».

Манеты выраблены: сярэбраная — якасцю «пруф», медна-нікелевая — якасцю «пруф-лайк».

Наклад: сярэбранай манеты — да 2 тысяч штук, медна-нікелевай манеты — да 5 тысяч штук.

Памятная манета «Біятлон», прысвечаная Алімпійскім гульням 2002 года, мае таксама форму круга дыяметрам — 38,61 мм, з вонкавага і адваротнага бакоў — выступаючы кант па акружнасці. Бакавая паверхня манеты рыфлёная.

Выпушчаныя ў абарачэнне манеты з'яўляюцца законным плацёжным сродкам Рэспублікі Беларусь і абавязковыя да прыёму па намінальнай вартасці пры ўсіх відах плацяжоў без усялякіх абмежаванняў.

**Аляксей АРЭШКА**

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1779 Нумар падпісаны ў друк 30/10/2001 (15:00) Наклад — 9.900